Гарадзенская
КРЫНІЦА

Як жыць так жыць для Беларусі, а без яе навошта жыць.
БХД

№008, кастрычнік/лістапад 2012

# Іх імёны будзем памінаць, будзем помніць, будзем шанаваць і ганарыцца



**Кастусь Каліноўскі: за мужыцкую праўду на шыбеніцу.**



**Вітаўт Вялікі: дзяржаўны дзеяч, ваяр, патрыёт.**



**Тадэвуш Касцюшка: «Ліцьвін я ёсць», такім помнім паўстанца.**



Калі будзем карыстацца выгодамі малога памежнага руху?



Гарадзенскіе каталіцкія чытанні



БХД і байкот: альтэрнатывы няма



# У калей-даскопе навін БХД





Справаздачны перыд выдаўся для сяброў БХД Гарадзеншчыны па сапраўднаму насычаным і працавітым. Імпэту інтэнчіўнай рабоце надавала перадвыбарчая і выбарчая гонка. Незаганным будзе нагадаць, што Цэнтральная рада БХД прыняла рашэнне байкатаваць выбары дэпутутаў ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальга сходу рэспублікі. Бэхэдоўцы Гарадзеншчыны ішлі ў рэчышчы рашэнняў ЦР. Ўсамчас нагадаць, што ў нашым рэгіёне прадстаўнікі ня ўсіх дэмакратычных партый і руахў з разуменнем паставіліся да ідэі байкоту. Тое ж самае назіралася і ў шэрагах нашае філіі. Некаторыя сябры націскалі на неабходнасць ўдзелу ў выбарах, другія бэхэдоўцы ратавалі за ўдзел ў выбарчым працэсе ў якасці назіральнікаў. Таму часам на пасяджэннях эмоцыі як кажыць перабольшвалі здаровы сэнс. Для высвятлення пазіцыі гарадзенцы наведалі адбываючага турэмнае зняволенне на Пружаншчыне сустаршыні аргкамітэту па стварэнні партыі з Хрыстом ў сэрцы Паўла Северынца. Менавіта там і ўдакладнілі, што байкот неабходна ўспрымаць як доўгатэрміновы акт пратэсту існуючай ўладзе. Дыялог з прадстаўнікамі гэтай ўладнай вертыкалі на любым ўзроўні безсэнсоўны. Любыя кантакты на карысць толькі тым, па загаду якіх лепшыя сыны Беларусі асуджаны на турэмнае зняволенне, або павінны жыць на эміграцыі. Ім нішчыцелям беларускага і беларушчыны дыялог як справаздача перад міжнароднымі гуманітарнымі арганізацыямі;" Маўляў ў нас з апазіцыйнымі рухамі ідзе дыялог і дынаміка яго павялічваецца. Выбары гэтаму добры пакзчык". Дасціпныя і ыопытныя барацьбіты за незалежную і квітнеючую Бацькаўшчыну даўно разгадалі хлуслівасць рэжыму і ўспрынялі байкот, як адзіны і правільны рэсурс супрацьстаяння тым, хто штодзённа здзекваецца ў вачавідкі і скрытна над патрыётамі і патрыятызмам. Менавіта ў Гародні гэтыя людзі тлумачылі сэнс байкоту, як панацэю. Згадаем дадаткова, што рэжым і яго лідар ненажарт спалохаліся і першыя вусны рэжыму неаднаразова звярталіся да тэмы байкоту называючы яго аўтараў пятай калонай варожых рэжыму сілаў. Спалохаліся яны пасур"ёнаму, таму і выцянулі з нафталіну мясцовыз ліберлаў на чале з Гайдукевічам. А тыя давай нічаць, што іх паплечнікаў 45-ць тысяч. А дзе тыя іх кандыдаты ў дэпутаты і іх пераможна ўскінутыя рукі ўжо з мандатам дэпутата? Ў Прынямонні мандаты дэпутатаў атрымалі тыя, хто йшоў кандыдатам па спісе ўладуўтрымліваючага лэжыму. Вось і згадай, што гэты парламент легетымны? Ўсе. Хто на Гарадзеншчыне перамог на выбарахгэта людзі прапрэзідэнцкай вертыкалі. Іх вылучылі, падьрымлівалі ўладныя, а не народныя масы.

**Цяпер да тэты самых выбараў**

Працэнтныя паказчыкі па назіраннях сяброў БХД Гародні ненадта завышаныя. Вынік прынеслі так званыя закрытыя ўчасткі і папярэдняе галасаванне. На нашй зямлі жыве яшчэ шмат абыякавых людзей з разважаннямі, што нехта павінен жа прымаць законы. І тут надзёным паўстае пытанне, што рэжым свядома вынішчае само разуменне беларускай памяці, беларускага патрыятызму, беларускай годнасці. Маса людзкога натоўпу, які сам па сабе выжывае , сам па сабе судзіць – гэта найлепшае поле дзейнасці для хлусаў і авантурыстаў.

### Дзейнасць пасля выбараў

Зараз чальцы партыі БХД на Гарадзеншчыне падсумоўваюць вынікі выбараў. Відавочна, што дэпутацкія мандаты атрымалі людзі, што ішлі на выбары ў праўладнай камандзе.

За іх прагаласавалі там, дзе аніякі назіральнік няздолее заўважыць падман. Таму ідэя байкоту, што была прапанавана лідарамі партыі Беларуская Хрысціянска Дэмакратыя надзённая справа. Мы не далі сябе ў чарговы раз абдурыць ўладнай вертыкалі, якая цешыцца сваіім даверам ў народа. І як тут ня ўспомніць галасы пюдзей, што кожны дзень чуеш ў грамадзкім трансперце, ў краме, на торжышчы:" Маўляў я нехадзіў на выбары, а вынік вось які". Застаецца толькі дадаць, хлусня і татальны падман прыносіць такія вынікі.

### Лідзія Ярмошына і выбары

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лілдзя Ярмошына ў сваіх інтарв"ю для джзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі выказваецца стрымана і з аглядкай. Маўляў:" Хто іх ведае гэтых міжнародных назіральнікаў, яны могуць заявіць што хочаш". Сапраўды міжнародныя назіральнікі выказваюцца да выбараў ў Беларусі рознымі пунктамі гледжаня. Ім хочацца выбараў больш празрыстых,масавых з актыўным удзелам партый ірухаў з самымі рознымі палітычнымі платформамі, аб гэтым яны нагадваюць ўспамінаючы таксваныя папярэднія дні галасавання. Адсачыць іх ход на аддалёных выбарчых ўчастках немагчыма, а выходзіць і знайсці парушэнне немагчыма. Старшыня ЦВК гэта разумее і гаворыць пра гэта ў паўголаса, называючы выбары ціхімі і спакойнымі. На самой справе тут з Лідзіяй Ярмошынай трэба пагадзіцца .Не было на гэтых выбарах ні інтэнсіўнай агітацыі на што наракае кіраўнічка Ц"ВК, ні было і гарачых дыскусій між кандыдатамі., ні было і людных пратэстаў ад апазіцыі, якая маўкліва, альбо ў паўголаса падтрыма ідэю байкоту прапанаваную лідарамі БХД. Робіцца яшчэ і такое ўраджанне, што людзі з абоймы ведалі вынікі напярод ,і траціць сілы проста ня мелі аніякога жадання. Так што мадэль выбараў па разнарадцы поўнасцю сябе апраўдала. І старшыня пра гэта маўчыць, нежадаючы адказваць на непажаданыя пытанні міжнародных экспертаў.

### Байкот працягваецца



Выбары сталі гісторыяй і дадуць ім адзнаку некалі гісторыкі і навукоўцы.

Аднак супрацьстаянне рэжыму. Які даўно здрадзіў Бацькаўшчыне працягваецца. Байкот мае хай сабе доўгатэрміновую, але вялікую перспектыву. Зараз каля ўладнай вертыкалі з"явілася шмат прыстасаванцаў і кар"ерыстаў, ім наганяе апетыту тлустая кармушка вертыкальшчыка. Байкот і яго працяг - гэта разуменне свядомым беларусам быць пільнымі, каб наноў непаўтарыўся 1994 год. Нам такое паўтарэнне нідачаго!

### Справы пакрыўджаных пад абаронай БХД

Прыемная навіна дайшла на днях гарадзенскім сябрам БХД. Суд Ленінскага раёна Гародні задаволіў іск сябра партыі Марыі Грушэўскай да адміністрацыі крамы " Лічбавік" аб разрыве фінансава-крэдытнага пагаднення на пакупку спадарыняй Грушэўскай ноўтбука.

Марыя Грушэўскага западозрыла гандляроў ў недабрасумленных пастаўках пажаданай пакупкі і падала на іх ў суд. Пасля некалькіх судовых пасяджэнняў, дзе Марыю Восіпаўну падтрымлівалі чальцы патыі суд Ленінскага раёна вынес свой прысуд на карысць нашае паплечніцы. Як расказала сама Марыя Восіпаўна, днямі ёй прыйшоў ліст з суда ў якім падцверджаны яго рашэнні. Зараз спадарыня Грушэўская збірае лясныя дары прыроды і чакае з візітам да сябе судовага выканаўцу з дапамогай якога спадзяецца вярнуць свае страчаныя грошы. А яны згодна судовых рашэнняў немалыя. Толькі за маральны здзек на карысць Восіпаўны з адказчыка будзе спагнана мільён рублёў. Датаго ж адміністрацыя " Лічбавіка" павінна аплаціць ўсе судовыя рахункі, разлічыцца за крэдыт з банкам.



# «Нас чакаюць Дзяды»

Прынесці кветкі, аздоміць імі памятнае сэрцу месца любых, адышоўшых ад нас ў нябыт продкаў. Ці не самая высакародная справа для беларуса? Штогод мы ходзім да месцаў адвечнага супачыну тых, хто падараваў нам жыццё. Дзень памінання продкаў- гэта адметны дзень. Ён пераажыў бальшавіцкія ганенні на памяцы пашану жывых і памерлых.

Памятаю, як напачатку адраджэння беларусчыны разам з паплечнікамі першы раз , цяпер ўжо ў далёкім 1989 годзе ўшаноўвалі ў Гародні Дзень памінання продкаў " Дзяды". Тагачасныя пракамуністычныя ўладныя пыталісятак:" А да якіх памятных месцаў, вы будзеце ўскладваць кветкі. Падайце заяўку, азначце маршрут. Міы разгледзім". Доўга па маладзёваму мы спрачаліся ў музуі " Максіма Багдановіча"( Штаб-кватэра беларускага адраджэння па Гарадзенскі) і вырашылі дадаць да спіса і імя правадыра пралетарыяту. І менавіта гэта спрацавала . Ўладныя далі дазвол, аколькі потым было смеху, калі калона прыйшла да помніка Леніну і аніхто нескрануўся з месца, каб ўшанаваць гранітную глыбу кветкамі. Затым мы прайшлі да помнікаў Янкі Купалы Алаізы Ажэшкі,затым згодна маршрута да вайсковых могілак, дзе адбыўся мітынг-рэквіум. Нашы хлопцы Мікола Воран,Алесь Чобат, Зміцер Кісель, Данута Бічэль- Загнетава, Ўладзімір Навумовіч і многія іншыя далі распёкі дзеям крамлёўскіх старцаў ў Тбілісі. Славілі Кастуся Каліноўскага, Тадэвуша Касцюшку- ваяроў і змагароў , арганізатараў супраціву маскоўскай ваеннай экспансіі на землі Вялікага Княства Літоўскага. Тыя восенскія Дзяды назаўжды пазастануцца ў сэрцы, як застаюцца з намі імёны тых, каго помнім, любім, кім ганарымся.

Нагадаем, што Дзень памяці продкаў "Дзяды" быў дзяржаўным святам . Адзначаецца ён другога лістапада.Сучасная антыбеларуская кліка адмяніла Дзень памяці. Нагрувасціўшы беларусам наўзамен як дзяржаўнае свята кастрычніцкі Пецярбургскі пераварот.



# Памяці паплечніка

Гарадзенскія адраджэнцы панеслі значную страту. На 89-тым годзе жыцця ад нас зышоў ў нябыт адзін з сузаснавальнікаў альтэрнатыўнай, беларускай арганізацыі ветэранаў Мікалай Мельнікаў. Спадар Мельнікаў нарадзіўся на Магілёўшчыне. Разам з бацькамі быў вывезены на поўнач. Пасля рэабілітацыі сям"і вярнуўся на Радзіму, вучыўся, займаўся . Затым займаўся напісаннем навуковых працаў. Выкладаў ў Гарадзенскім ўніверсітэце імя Янкі Купалы. Актыўна далучыўся да руху адраджэння. Дзякуючы яго высілкам ў Гародні была створана, а затым і актыўна працуючая альтэрнатыўная ветэранская арганізацыя. Ветэраныальтэрнатыўшчыкі разам з ўсімі працавалі на ніве адраджэння. Яны намагліся і дабіліся ад ўладаў дазволу заснаваць ў горадзе над Нёманам музея памяці Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.Пералічыць ўсе высакародныя справы гарадзенскай альтэрнатыўнай арганізацыі ветэранаў. Якою ўвесь час кіраваў Мікалай Мельнікаў немагчыма. Ўпэўнены, што справа, якую заснаваў ў Гародні спадар Мікола будзе жыць і надалей, як будзе і жыць ў памяці патрыётаў беларусаў прозвішча Мікоалая Мельнікава.



Мікалай Мельнікаў у гады вайны

# Сшытак Гарадзенскай інфармацыі

### Быць больш пачутымі

Назломе лета ў Гародні прайшоў першы семінар каталіцкіх сродкаў масавай інфармацыі. У семінары прынялі ўдзел прадстаўнікі як мясцовых так і рэспубліканскіх СМІ, журналісты з Бліжняга Замежжа. Запрошаным госцем быў вядомы польскі кінарэжысёр Кшыштаф Зануссі. Арганізатарамі першага семінара каталіцкіх сродкаў масавай інфармацыі выступілі Гарадзенская дыяцэзія. Праходзіў кангрэс у сценах Гарадзенскай Каталіцкай Вышэйшай Духоўнай Семінарыі. За тры дні семінара былі прачытаны даклады па пытаннях дзейнасці і пашырэння ўплыву каталіцкіх СМІ ў рэспубліцы. Спадар Кшыштаф Зануссі паказаў майстар-класс працы ў сродках масавай інфармацыі. Па выніках кангрэсу Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў добры крок на якім зараз знаходзіцца каталіцкая прэса ў краіне. Арцыбіскуп пажадаў далейшага пашырэння ўплыву каталіцкіх СМІ ў першую чаргу сярод дзяржаўнай прэсы.

### Румлёўскі падлесак скасілі

Незаціхаюць ў Гародні дэбаты аб тых шкодах, што нанеслі Румлёўскаму парку новабудоўлі. Найлепшым варыянтам было б спыненне тут ўсялякага будаўніцтва. Аднак ўсё наадварот. Наўкол былога азотаўскага шпіталю ўзведзены парканы. Адным словам месца закааправанае пад будоўлю.

І так будзе надалей пакуль нейкі самы высокі чыноўнік з Менску не згадае :"годзе глуміцца над гісторыяй і барацьбой мясцовых саматужнікаў-абаронцаў прыроднай даўніны".

Калі ж разважаць дакладна, то праблемы Румлёўскага парку распачаліся ыельмі даўно, калі гарадзкімі камуністычнымі ўладамі навакольная тэрыторыя была ўнесена ў склад тэрыторый пад забудову жылога сектару. Выправіць становішча зараз фактычна немагчыма. За дзесяцігоддзі " асваення" ў развіццё інфраструктуры выдаткавана сродкаў ў многія мільярды рублёў. Будаўнікі давядуць запланаванае будаўніцтва да лагічнага свайго завяршэння. Тым, каму неабыякава гістарычная памяць могуць толькі дасціпна назіраць і пратэставаць. А пакосы лесапаркавага маладняку няхай пазастаюцца на сумленні тых, хто такое зрабіў, бо іх захады выклікаюць толькі смех і абурэнне некампетэнтнасцю загадаў. Паўсюдна ў Эўропе вядзецца добраўпарадкаванне, дзе найперш вывучаецца менавіта гатунак маладога паросту, а затым вядзецца акультурванне тэрыторыі, дзе падрост высякаюць з мэтай даць дадатковае святло і месца рэдкім і каштоўным гатункам падросту. Няхай камунальнікі паедуць ў Эўропу не як турысты, а як людзі, што наўмысна прыязджаюць з мэтай вывучэння мясцовага вопыту гаспадарання.



### 750 мільёнаў рублёў для млазабяспечаных дзетак

Гарадзенцы выявілі сапраўдную міласэрнасць і заклапочанасць да лёсу тых дзетак, каго бацькі не змаглі самастойна забяспечыць неабходным школьны рыштункам.

Гарадзенцы сабралі каля васьмісот мільёнаў рублёў падчас агульнагарадзкой дабрачыннай акцыі "Збярэм дзяцей ў школу". Сабраныя сродкі пайшлі на дапамогу амаль тром тысячам малазабяспечаных школькаў. На долю кожнага, хто атрымаў дапамогу пералічана амаль 270-т тысяч рублёў.

### Эўрарэгіён" Нёман" нагадаў аб сваім існаванні

На выставу сучасных дасягненняў ў вытворчасці прамысловых, аграпрамысловых тавараў запрасіў гарадзенцаў і гасцей горада бізнес-калектыў Эўрарэгіёна "Нёман".

Выстава прайшла ў спартыўным комплексе з аднаімённым назовам з чацвёртага па шостага кастрычніка. Ладзілася яна пад назовам "Гародня-горад на перакрыжаванні межаў". Гарадзенскія сустрэчы нямецкіх, польскіх , расейскіх і беларускіх дзелавых людзей насілі шматвектарны характар і вонкава нагадвалі вялікі кірмаш ня толькі гатовых тавараў , а і людзкіх бізнес

-магчымасцяў

### Насуперак інфекцыі грыпу

Ў нашым абласным цэнтры распачалася вакцынацыя жыхароў горада супраць грыпу.

На гэты перыяд медыкі маюць намер зрабіць прышчэпкі больш як 140-тысячам гарадзенцаў.Тыя, хто дбае пра сваё здароўе даўно ўжо займаюцца ўласнай прафілактыкай вострых распіраторных захворванняўвыкарыстоўваючы для гэтага вядомыя народныя сродкі, як ўжыванне ў ежу цыбулі і часнаку.

### Гарадзенцы далучыліся да Сусветнай акцыі па зборы смецця

Сама акцыя праходзіць пад дэвізам "зробім". На мэце яе збор і перапрацоўка смецця. Сёлета на Гарадзеншчыне гэты дабрачынны міжнародны рух за чысціню меў абласны статут. У акцыі ўзялі ўдзел больш трох з паловай дабраахвотнікаў.

За дзень яны назбіралі больш сямісот кубаметраў смецця. Якое затым перабралі згодна прызначэння.

Дарэчы, самым брудным месцам ў вобласці прызнана саўдаводніцкае таварыства "Яблычка". Тут валанцёры сабралі некалькі самазвалаў адыходаў.

### Ў Гародні запрацавала свая " Выспа чысціні"

Менавіта краму сеткі " Выспа чысціні" адкрылі прадстаўнікі замежнага прыватнага гандлю.

Магазіны гэтай сеткі працуюць ва многіх гарадах Беларусі. Асартымент самы разнастайны. Галоўнае на што разлічваюць камерсанты заманіць сюды пакупніка нізкімі коштамі на тавары штодзённага попыту.

### Ўспомнілі пра мову Скарыны і Купалы

Ў Гародні на ўсе спасабы хваляцца групай дзетак двух і чатырохгадовага ўзросту якім ў садку № 45 што па вуліцы Сухамбаева пачалі выкладаць родную мову з маленства. Зацікаўленых бацькоў шукалі праз інтэрнэт. На думку актывістаў абласной суполкі ТБМ-гэта дагледжаная дзіцячая эліта. Яе неабходна як песціць, так і развіваць.




Гэта не адно новаўвядзенне ў гарадзенскай дашкольнай сістэме выхзаванню нашых пацех. Ў Гародні разгледжваюцца пытанні заснавання хатняга дзіцячага садка, дзе б жанчына , што выхоўвае сваіх дзетак змагла выхоўваць ў свакёй кватэры і дзетак выхаванне якіх ёй давераць бацькі. Такі садок можа хутка з"явіцца ў Гародні ў мікрараёне "Дзевятоўка".

### Ці стане вакзал візітнай карткай Гародні?

На думку дасціпных не, бо будаваўся ён па тыпавому савецкаму праэкту. Перабудаваць яго можна зламаўшы дашчэнту.Для гэтага нехапае сродкаў і яго вялікасць час недазваляе. А так можна касметычным рамотам надаць яму прывабны выгляд. Такі рамонт-рэканструкцыя ніколі непаставіць будыніну ў шэраг роўных з тым старым вакзальным памяшканнем, якое праз гады гарадзенцы ўспамінаюць з любоўю і замілаваннем.

### Гарадзенскіх мастакоў сустракалі ў летувісскім Шаўляі

Сустрэча апафеёзам якой стала выстава твораў гарадзенскіх мастакоў Юры Якавенкі і Алеся Сільвановіча прайшла ў адной з выставачных залаў гэтага летувісскага горада.

Мастацкімі працамі гарадзенцаў летувісы любаваліся дзякуючы дамове падпісанай дырэкцыяй выставачнай залі Гародні са сваімі летуаісскімі партнёрамі. Дамова мае даухбаковае пагадненне дзякуючы якому сваю творчасць гарадзенцам змогуць паказаць і летувісскія мастакі.

### У горад бацькоўскага дзяцінства

Спадарыня Дзіна Любіч наведала ў сёлета горад над Нёманам. Сама Дзіна нарадзілася ва Францыі. Яе бацька да пачатку Першай Сусветнай вайны жыў у Гародні. Пасля заканчэння вайны эміграваў ў Францыю. У французскай сталіцы ён знайшоў свій лёс. Працаваў мастаком. Зараз некаторыя яго працы дэманструюцца ў нацыянальным мастацкім музеі ў Менску разам з творамі іншых французскіхвіртуозаў пэндзля. Дзіна Любіч сваім візітам мела на мэце знайсці звесткі аб перыядзе жыцця бацькі ў Гародніпа магчымасці ўбачыць тыя месцы, пра якія ёй расказваў у дзяцінстве бацька. На жаль, ў гарадзенскім архіве няма дасціпнай, дастакова грунтоўнай і цікавай інфармацыі. Падчас пра-

цы над зборам архіўных дакументаў архівістамі былі дапушчаны памылкі ў дацiроўцы некаторых старонак з асабістага жыцця спадара Восіпа Любіча. Аднак нягледзячы на гэта Дзіна Любіч не губляе надзеі знайсці хоць нейкую інфармацыю. Плануе наноў наведаць горад над Нёманам і мае надзею, што мастацкія творы работы яе бацькі ўбачыць вока масавага гарадзенскага гледача. У планах дачкі ёсць намер прывесці выставу ня толькі Гародню.

**У Гародні на адзін музей стала больш**

Для гарадзенскай публікі адчыніла свае дзверы галерэя ўстаноў прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Галерэя мае стацыянарную экспазіцыю і месціцца на тэрыторыі прыборабудаўнічага каледжа па вуліцы Курчатава. Усяго тут працуе 4 залы. Галоўная ідэя заснавальнікаў паказаць развіццё сістэмы прафесійнай адукацыі ад самых старажытных прафесій і да сучасных. Праца па будаўніцтву галерэі праходзіла на працягу больш года. Упраўленне Адукацыі курыравала ўсе работы па стварэнню залі галерэі. Штуршком да яе ўзнікнення паслужыла святкаванне 70-ці годдзя з дня стварэння першых прафесійна-тэхнічных устаноў у Беларусі. Аднак галерэя яшчэ не поўнасцю падрыхтавана. Неабходна набыць банэры ў мэтах больш грунтоўнага паказудасягненняў прафесійна-тэхнічнай адукацыі ў сельскагаспадарчай сферы. Поўнасцю плануецца змяненне знешняга выгляду першай залі. У якой сярод штандараў ПТВ вобласці размесцяць фотаздымкі людзей, дзякуючы якім развівалася і квітнела рэгіянальная прафесіна-тэхнічная адукацыя.

**Што згадаў бы класік?**

Менавіта праблема быць залітым водаканалізацыйнымі адыходамі стала актуальна для залаў Дома –музея Максіма Багдановіча ў Гародні.

Прэцэндэнт для гэтага ўжо быў, калі на другім паверсе Дома-музея, дзе дагэтуль пражываюць тры сям"і прарвала шланг падачы халоднай вады.Тады выставачныя залі музея непрацавалі некалькі дзён.

Да якіх наступстваў можа прывесці больш значная камунальная аварыя можна толька здагадвацца. Таму надзённа толькі адно пытанне. Выселіць жыльцоў другога паверха і правесці капітальны рамонт ўсяго будынка.

На гэта нібыта можа выдаткаваць сродкі спецыяльны фонд краін Эўразвязу



**Музеі Гародні пад наглядам кінакамер**

Менавіта новаўвядзенне дапаможа хоць крыху зацыраваць жабрацкія бюджэты гэтых ўстаноў культуры і захавальнікаў даўніны разам з гістарычнай памяццю. Захады да сучаснасці –гэта неадзіны кірунак дапасаваць бюджэт. Працоўныя калектывы музеяў з нагоды рэгулявання бюджэта чакаюць скарачэнні.

**Філармонія і спадзеўкі на хуткую адбудову**

Былы "Палац хімікаў" , а зараз будынак Гарадзенскай абласной філармоніі не стане па словах чыноўнікаў ад культуры даўгабудам.

Завяршыць ўсе рамонтна-рэстаўрацыйныя працы будаўнікі абяцаюць да лета будучага года. Праўда ёсць нараканні на недастатак фінансавання аднаўленчых работ. Як паказвае вопыт, менавіта з-за недахопу фінансавання ў лік дзеючых своечасовага ўводу недачакаліся шмат самых цікавых праэктаў.

**Шлюбуюць пенсіянеры**

Згодна інфармацыі абласнога ўпраўлення статыстыкі пажылыя жыхары Прынёманскага краю сталі часцей ўступаць ўшлюбы . Сёлета вузамі Гіменэя звязалі сябе каля ста чалавек ўзрост якіх сягнуў больш за 60-т год.

Адпаведна статыстычных дадзеных на Гарадзеншчыне пражывае каля 220-ці тысяч людзей старэй шасцідзесяці год. Гэта прыкладна кожны пяты жыхар вобласці. Што цікава, на аднаго пажылога мужчыну прыпадае па дзве пажылыя кабеты. Пальму першынства тут складаюць жыхаркі сяла. На тысячу сівагаловых дзядулек тут налічваецца больш за дзве тысячы бабулек.

**За спробу з"есці пратакол гарадзенца даставілі ў пастарунак**

Малады вадзіцель праехаўшы на чырвонае святло на ўласным " Мэрседэсе"сутыкнуўся з легкавіком іншай нямецкай фірмы " Фольксваген".

Даведаўшысяў будунку ДАІ, што ён вінавайца дарожна-транспартнага здарэння малады чалавек

схапіў складзены інспектарамі ДАІ пратакол скумечыў яго і спрабаваў з"есці. Пасля такіх непрадказальных захадаў маладога кіроўцу даішнікі адвезлі ў бліжэйшы мілімцэйскі пастарунак.

**В"етнамцы на мяжы**

36 грамадзян Ўетнама спрабавалі незаконна перайсці дзяржаўную мяжу на тэрыторыі Гарадзенскага памежнага атрада.

Няпрошаныя госці з Індакітайскай паўвыспы прыбылі да нас з Ханоя транзітам праз Маскву.

Ў чаканні, калі іх нелегальна пераправяць праз мяжу ўетнамцы распачалі пабудову часовага бівака. Менавіта тут іх за такой справай і заспелі памежнікі.

**Няпроста чаўночыць пёхам**

Штодзень своеасаблівы тлум людзей з цяжкімі кайстрамі можна назіраць на беларуска-польскім кантрольна-прапускным пункце " Брузгі"-" Кузніца".

Гэта тая частка чаўнакоў, што спрабуюць даехаць да Гародні праз мяжу на так званай падсадцы пасажырам легкавіка. За згоду падвезці чашнок плаціць ўласніку легкавіка па дамоўленасці даляр, або два. Вадзіцелі часам незгаджаюцца па прычыне поўнай загрузкі аўто сваім таварам. Вось і глядзіш, як ходзяць часцей за ўсё немаладыя кабеты і просяць падвезці. Такі дадатак да пенсіі , альбо ў бюджэт сям"і дзяцей цяжкі і шкодны здароўю. Згодна назіранням медыкаў кабеты, што па некалькі год зарабляюць сродкі такім чынам часта церпяць на захворванні апорнарухавога апарата, мпюць апушчэнне нырак і шмат іншых спадарожнічаючых захворванняў нават такіх як сухоты і цукровы дыябет.



**Чаўнакі і ёсць чаўнакі**

Дзесяць мабільных тэлефонаў і некалькі планшэтаў знайшлі напрыканцы верасня чыгуначнікі на ўчастку чыгункі"Гародня-Кузніца". Находка трапіласяна вочы пасля таго як па маршруту праехаў цягнік "Гародня-Беласток". Мабільнікі фірмы "Самсунг і Нокія" былі выкінуты праз вакно ў поліэціленавым пакунку непадалёк чыгуначнай станцыі " Ласосна". Планшэты таксама ва ўпакоўцы знойдзены на чыгуначным палатне супраць аўтавакзала.Ўся электроніка перададзена ў мытную службу.

**Ў паляка канфіскавалі "Крайслер"**

Польскі хітраванец на дыхтоўным легкавіку спрабаваў праз дзяржаўную мяжу правезці каля пяці тысяч цыгарэт. Мытнікі спрацавалі прафесійна і шыкоўнае аўто разам з кантрабандным грузам папярэдняя вартасць якога налічваецца 16-цю мільёнамі рублёў затрыманы да рашэння суда. Незаконны цыгарэтны бізнес надзённае пытанне мытных службаў і на паўночным кірунку дзяржаўнай мяжы нашае Бацькаўшчыны. Нядаўна летувісскія памежнікі затрымалі маладога жыхара Бераставіцы, які ў спецыяльным схроне пад дном легкавіка спрабаваў незеконна перавезці тысячы пачак цыгарэт айчыннай вытворчасці ў гэтую Прыбалтыйскую краіну. Ў канкрэтным выпадку аўто бераставічаніна канфіскавана летувісамі да судовага рашэння. Распавядаюць памежнікі і такі незвычайны і "адмысловы" спосаб кантрабанды цыгарэт, як выкарыстанне кантрабандыстамі навігатара "ДЖЫПІЭС" і, які быў замацаваны на плыце з грузам цыгарэт ў памежнай частцы русла ракі Нёман.

**Вадзіцель! Памятай аб хрысціянскай маралі**

Менавіта на гэта забыўся вадзіцель аўтафуры , які ехаўшы па трасе Гародня –Менск ў раёне вёскі Більтаўцы Лідзкага раёна збіў веласепедыста.

Па словах відавочцаў кіроўца спачатку спыніўся, а затым сеў наноў ў кабіну фуры і даў дзёру. Інспектары ДАІ шукалі вінавайцу два дні . Ім апынуўся жыхар сталіцы. Заразён дае тлумачэнни за свій паступак следчым.



Нам пішуць, раяць, пытаюцца

# Пенсія, гандаль і лецішча

Наяўнасць пяці сотак зямлі (дачы) атрыманы пенсіянерамі за нявольніцкую работу яшчэ ў савецкі перыяд сталі на Гарадзеншчыне добрым падмуркам ў латанні дзіравага і жабрацкага бюджэта сям"і з аднаго, двух пенсіянераў.

Надоечы чуў знаходзячыся на сваіх сотках размову групы кабет –пенсіянерак. Рэяводзіла самая актыўная так:"Дзяўчаты я ўсю пенсію аддала на лекі. Ні было за што сюды на агарод прыехаць. Добра сусед ехаў на легкавіку. Падвёз дзякуй яму Бог. Як жыць ня ведаю ! Трэба пазычаць грошы." Другая больш дасціпная парадзіла суразмоўцы так:" Ў цябе ж добрая цыбуля , што ты садзіла на зіму. Нарві і прадай."

Вечарам бачыў, як пенсіянерка, што аддала грошы на лекі везла кайстру зялёнай цыбулі на продажу. Аднак сцвярджаць, што гандаль паправіў мізэрны бюджэт жанчыны згадаць цяжка. Сваё вырашчанае на лецішчы пенсіянеры часта спрабуюць прадаваць не ў дазволеных для гандлю месцах. Проста спрабуюць сэканоміць грошы неплаціўшы за гандлёвае месца на торжышчы. Гандаль ў недазволеных месцах ў нашай краіне караецца па закону.



Вось так і жывуць-існуюць, трываюць. Ходзяць на выбары, слухаюць абяцанкі , спадзяюцца на дзеючага місію, нічога непатрабуюць, і гатовы трываць так і далей. Абы б вайны нібыло. Хто так навучыў іх?

# Грошы і забытыя прафесіі!!!

Некалі на вёсках людзей, што збіралі старыя рэчы называлі " анучнікамі" Прафесія была мала паважаная, але прыбытковая. Зараз даўняя прафесія памаладзела, і людзей, што збіраюць старое шкло, ржавае жалеза , паперу вяскоўцы клічуць бізнесменамі. Яны апрануты прыстойна, раз"язжаюць не на фурманках, а кіруюць іншамаркамі.

З " анучнікам" сучаснага фармату гарадзенцам Анатолем адбылася вось такая гутарка:" Справа збору другсыравіны хоць і клопатная, але прыбытковая. На прыватных падворках вяскоўцаў без ўжытку ляжыць нямала і каляровага металу, і звычайнага чорнага пракату. Складаней збіраць лом ля гаражных кааператываў. Гараджане ўмеюць лічыць грошы, і самі здаюць адыходы метала. Вяскоўцы іншае, яны больш даверлівыя, і няведаюць, што гэта немалыя грошы. Ім толькі прыбіры са двара смецце. Кілаграм чугуна каштуе на прыёмным пункце каля двух тысяч рублёў, шкло і папера танней.

Так што зарабіць можна нядрэнныя грошы, калі пашанцуе.

Назваць гэта сталай працай не хачу, бо з кожным днём складаней здабываць металічны лом, іншыя адыходы".

Неяк чуў ад вяскоўцаў, што ў сваіім гроне, яны, калі ўбачаць легкавікі з прычэпамі кажуць між сабой . санітары ў фрэнчах прыехалі.

# Псіхічна хворае жыцце

**З 1992 года, ва ўсім свеце, 10 кастрычніка святкуецца дзень псіхічнага здароўя. Па дадзеных сусветнай арганізацыі аховы здароўя, адзначана, што на планеце хворых псіхічнымі растройствамі ўжо больш за 450 мільёнаў, а кожны яе 20 жыхар пакутуе фобічнымі дэпрэсіямі.**

Вучонымі ўжо даўно вызначана, што жанчыны ў большай ступені схільныя да псіхічных захворванняў чым мужчыны. Асабліва няўстойлівы псіхаэмацыйны стан у жанчын у час цяжарнасці.

Як растлумачыла лекар – псіхатэрапеўт кансультатыўна – дыягнастычнага аддзялення “Шлюбу і сям’і”,паліклінікі Установы аховы здароўя Гродзенскага абласнога перынатальнага цэнтра, Гімпель Вольга Васільеўна, у час цяжарнасці, асабліва ў яе першай палове, маюць месца такія змяненні агульнага псіхічнага стану, як плаксівасць, раздражнёнасць, апатыя, трывожныя пачуцці за будучыню дзіцяці, турботы адносна маючых адбыцца родаў і многае іншае. Цяжарнасць робіць жанчыну эмацыйна ранімай, ёй хочацца ўвагі, падтрымкі і разумення родных і блізкіх. Псіхалагічная падтрымка бліжняга атачэння неабходна як ніколі. Аднак трэба памятаць, што кваліфікаваную дапамогу можа даць толькі лекар – тэрапеўт. Ён дапаможа пераадоляць трывогі і падрыхтуе Вас да мацярынства на духоўным і душэўным узроўнях.

*- Якія псіхічныя растройствы могуць узнікнуць у час цяжарнасці?*

Гэта неўралагічныя і псіхічныя растройствы. Часцей за ўсё яны сустракаюцца ў жанчын з пагрозай выкідыша.

Да групы неўралагічных парушэнняў адносяцца неўрозы, неўратычныя рэакцыі, псіхасаматычныя растройствы. Імі пакутуюць да 30% цяжарных і парадзіх. Гэтыя парушэнні лічацца найбольш лёгкімі, аднак, у шэрагу выпадкаў, яны могуць стаць прычынай невынашвання цяжарнасці, Вельмі часта трывогі звязаныя з выкідышамі сустракаюцца ў будучых маці без якой – небудзь на гэта прычыны. А вось найбольш небяспечнымі з’яўляюцца псіхічныя растройствы, якія самы сабой не праходзяць, а патрабуюць кваліфікаванай лякарскай дапамогі.

Дарагія будучыя матулі, я, як лекар, хачу даць зразумець, што парой не фізічная немач маці ўплывае на здароўе будучага немаўляці, а менавіта Ваш прыгнечаны нервовы стан.

Пастаянныя дэпрэсіі, стрэсы, дрэнны настрой цягнуць за сабой з’яўленне на свет хворага і нервознага чалавека.

*- Што такое пасляродавая дэпрэсія? Якія яе праявы?*

На гэтае пытанне падрабязны адказ дае лекар – псіхатэрапеўт паліклінікі Гродзенскага перынатальнага цэнтра Гарбуз Сяргей Аляксеевіч.

Гэты від дэпрэсіі вельмі распаўсюджаны. Ён сустракаецца прыкладна ў шасці жанчын з дзесяці.

Як правіла, пасляродавая дэпрэсія, гэта часовае растройства пlivaводзінаў. Самы распаўсюджаны сімптом, так званы плач без прычыны. Дэпрэсія таксама можа праяўляцца раздражнёнасцю, гнеўнасцю, растройствам сна. Лёгкая пасляродавая дэпрэсія звычайна праходзіць праз два тыдні пасля родаў. Як толькі маці будзе мець дастаткова ведаў па догляду за нованароджаным і стане больш упэўненай. Аднак, у рэдкіх выпадках, падобная дэпрэсія перарастае ў пасляродавы псіхоз. Да яго схільныя прыкладна адна – дзве жанчыны на тысячу. Сярод сімптомаў хваробы – галюцынацыі, страта адчування рэчаіснасці, суіцыдныя думкі. Першае, што неабходна зрабіць, гэта звярнуцца за дапамогай да лекара – псіхатэрапеўта.

Прыгнечаны стан маці негатыўна ўплывае на дзіця. У першую чаргу пакутуе яго эмацыйная сфера. Дзеці менш праяўляюць дадатных эмоцый, такіх як радасць, усмешкі, смех. У іх у меншай ступені выяўляецца цікавасць да розных рэчаў, цацак, людзей.

Калі Вы сустрэліся з падобнымі праблемамі, не бойцеся і не саромейцеся звяртацца за псіхалагічнай дапамогай.

**Праца лекара накіравана на:**

1.Зніжэнне эмацыйнай напругі ў сувязі з псіхатраўміруючымі з’явамі ці псіхалагічнымі праблемамі;

2. Зніжэнне эмацыйнай напругі звязанай з пагрозай перарывання цяжарнасці;

3. Выпрацоўку спрыяльных адносін да працякання цяжарнасці.

Лекары паліклінікі Гродзенскага перынатальнага цэнтра заўсёды рады прыйці Вам на дапамогу.

Ларыса Ішчанка

**Цікава ведаць:**

**Апапатафобія** – страх заходзіць у прыбіральні.

**Геленалагафобія** – страх перад складанай навуковай грэчаскай тэрміналогіяй

**Гелафобія** – страх перад смехам.

**Генуфобія** – страх перад каленямі.

**Гіпнафобія** – страх заснуць (страх памерці ў час сна).

**Драмафобія** – страх пераходзіць вуліцу.

**Коўлрафобія** – страх перад клоўнамі

**Лаканафобія** – страх перад агароднінай.

**Нефафобія** – страх перад хмарамі.

**Пеладафобія** – страх перад лысымі.

**Пэнтэрафобія** – страх перад цёшчай

**Папафобія** – страх перад Папай Рымскім.

**Цыклафобія** – страх перад раварыстамі, двухкалёсным транспартам.

**Гексакосіойгексеконтагексапараскаведэкатрыафобія** – страх лічбы 666 у пятніцу, 13 дня месяца.

# Цяжка, але ездзім

Мой сусед нядаўна вярнуўся з Польшчы. Трапіў ён туды па запрашэнні сваякоў. Скардзіўся, што для таго, каб трапіць ў гэтую краіну Эўразвязу сваякам прыйшлося добра пахадзіць па самых розных ўладных ўстановах. Польскі жонд патрабуе, каб тыя, хто прыязджае да іх адчувалі сябе тут камфортна.

Калі глядзець з пункту гледжання нашых людзей ім камфорт не самае галоўнае. Ім толькі б добра тут прадаць тое, што ўдалося правезці праз кардон. Палякі на мяжы працуюць жорстка і мэтанакіравана. Цэльнікі кожнага распытаюць пра мэту візіту і час побыту ў іхняй краіне. Непрамінуць распытаць , дзе будзеш жыць і харчавацца. Аднак нашы грамадзяне едуць ў Польшчу. Шукаюць тут танных тавараў . Найсці іх нескладана. Зайдзі ў любы гіпермаркет і выбірай , што патрэбна. Польскія кошты на самыя звычайныя тавары штодзённага попыту часам напалову танней нашых беларускіх. Калі ж справа даходзіць да пакупкі тавараў бытавой хіміі, то цэны ў польскіх крамах толькі радуюць і выклікаюць тугу да таго, што бачыш ў беларускіх магазінах.

Сусед расказваў, што на прыватным торжышчы "HETMAN" ў Беластоку мясцовыя гандляры згадвалі, што ў беларусаў яны купляюць толькі цыгарэты, гарэліцу. Яшчэ наш турыст можа прадаць тут валюту.Больш нінавошта з нашых вырабаў ў польскіх пакупнікоў няма ахвоты да пакупкі. А мы ездзім толькі з адной мэтай . Купіць танны і добры тавар з маркай прамыслоўцаў Эўразвязу.

Канешне нашаму чалавеку цяжкасці з атрыманнем візы нішто ў параўнанні з таннасцю тавараў на паліцах польскіх крамаў. Яны находзяць і сродкі на візу, і шукаюць родных ў Польшчы. Сёй- той ездзіць атрымаўшы " Карту паляка". Аднак нашым турыстам неабходна толькі ўспомніць , што паміж беларуссю і Польшчай падпісана пагадненне аб малым памежным руху. Польскі бок яго ратыфікаваў, беларускі адклаў вырашэнне пытання на невядомы тэрмін. З мэтай паўздзейнічаць на ўладу, каб паскорыць працэс ратыфікацыі беларускім бокам пагаднення аб малым памежным руху, сябры партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя распачалі акцыю па зборы подпісаў па ратыфікацыі вышэйзгаданага міжнароднага дакумента.

Давайце працаваць і збіраць подпісы разам.

## Яблыкі ня медзь, куды іх падзець?

На Гарадзеншчыне кожны падворак , дзе маецца сад завалены ўраджаем яблык. Куды іх падзець садаводы ведаюць. Дзяржава прымае яблыкі ад насельніцтва на прыёмных пунктах. Аднак сюды тыя, хто мае яблыкі неспяшаюцца, бо кошты прыёму садавіны вельмі ўжа нізкія. Здаць кілё яблыкаў за 400-та рублёў нявыгадна. Больш высокага кошту нарыхтоўшчыкі непрапануць. Вось і гніе яблыкавы ўраджай прама на зямлі. Тыя, хто мае жывёлу аддаюць вітаміны як фураж .

Вось і выходзіць, што наўзамен "купляй сваё, купляй беларускае" беларусы будуць набываць заморскія ківі і кока-колу. Застаецца толькі нагадаць, што медыкі даўно даказалі такі факт, што вітаміны дабытыя з мясцовых гатункаў садавіны і гародніны прыносяць нашаму арганізму толькі выгоды, А вось якасць замежнай прадукцыі вельмі часта неадпавядае панеабходным запатрабаванням.

## Паліўныя круізы суседзяў

Тыя замежна-суседзкія чаўночныя турысты, што прамышляюць на тэрыторыі беларусі гандлям палівазмазачных матэрыялаў згадваюць, што з адной такой камерцыйна-турыстычнай паездкі маюць 30\40 даляраў ЗША чыстага прыбытку.

Дарэчы, гандаль палівам-гэта амль адзіны прыбытковы памежны бізнес для летувісаў і палякаў. Нашыя чаўнакі гандлююць ў суседніх краінах гарэлкай і цыгарэтамі. Выйграюць на розніцы коштаў на штодзённыя спажывецкія тавары. Таму яны занепакоены магчымымі зменамі ў беларускім мясцовым памежнамытным заканадаўстве. На іх думку зменьваць што небудзь ў заканадаўстве аб рэгуляцыі заправак на памежных паліва-заправачных станцыях безсэнсоўна. Нашыя чаўнакі маюць небезпадстаўную трывогу і клопат, што памежныя рэгіянальныя ўлады Летувы і Польшчы адразу ж на гэта адрэагуюць .

Рэагаванне будзе ненакарысць беларускім чаўнакам. (Толькі праз мытныя пераходы " Брузгі" і "Прывалка" штодзённа праязджаюць па некалькі тысяч беларускіх чаўнакоў пражытачны бюджэт якіх фактычна складаюць вось такія гандлёва турыстычныя паездкі туды і назад). Хутчэйшае ратыфікаванне міжнароднага пагаднення аб малым памежным руху вырашыць ўсе праблемы і скасуе трывогі беларускіх чаўнакоў.

З нагоды актывам БХД праводзіцца акцыя па зборы подпісаў аб хутчэйшым рашэнні гэтага надзённага пытання. Вядома даўно, што польскі бок прыняў да гэтага пытання пазітыўнае рашэнне.

Падпісацца можна ў Гародні кожны аўторак з 19да 20-ці гадзін па адрасе: вуліца Будзёнага 48\А . Ўнутры двара.

# Беларуская «хакейная скрыпка» ня будзе першай

Чарговы хакейны сезон агарошыў заўзятараў чарговым лакаўтам ў Нацыянальнай Хакейнай Лізе. На гульнёвым полі Кантынентальнай Хакейнай Лігі наноў пачалі з"яўляцца энхээлаўцы. Беларускія аматары хакею мелі спадзеўкі, што нашы выхаванцы з НХЛ вернуцца хоць на нейкі час ў родныя пенаты. Спадзеўкі засталіся спадзеўкамі. Касціцын і Грабоўскі абмінулі Менск і адправіліся ў Расейскія клубы. Дзіўнага тут нічога. Проста ўпэўнены, нашы чыноўнікі зноў праспалі і спахапіліся, калі цягнік адыйшоў. Аднак, я няўпэўнены, што нават гэтыя заакеянскія зоркі змаглі б дапамагчы нашаму " Дынама" гуляць паспяховей. " Дынама" гуляе так , як ўмее. Нават недасціпнаму відаць, што менавіта беларускія хакеісты горш катаюцца на каньках, горш падрыхтаваны тэхніка-тактычна, горш разбіраюцца ў хітрасцях і ў хітраспляценнях гульні. Адным словам гэтых горш можна назбіраць столькі, што слёз ня хопіць. Здавалася б альтэрнатыва- легіянеры, але і яны неапраўдваюць сябе. Гульяюць як кажуць спусціўшы рукавы. Відаць ўпэўнены ў сваіх кантрактах і ганарарах. І пакуль менская " Дынама" шукае сябе на неабмежных прасторах КХЛ ў аднаасобнае плаванне адправіўся па Расейскіх гарадах і весях другі беларускі клуб " Юнацтва". Праўда менчукі гуляюць рангам ніжэй, але і тут асаблівага поспеху не відаць. Трэнерскі штаб на чале з Міхаілам Захаравым скардзіцца на траўмы , кароткую скамейку. Гэта не апраўданне. Трэба быць гатовым да цяжкасцяў, ўмець і вырашаць, ўмець пераадольваць. А то спадар Захараў ледзьве з кашулі ўласнай не выскачыў, каб гуляць ў больш прэстыжнай хакейнай лізе чым Адкрыты Чэмпіянат Беларусі. А то як апраўдаць выязныя і хатнія паразы ад навічкоў. Такіх гульцоў як хакеісты Краснадару?Яны пачаткоўцы, а мы карыфеі? Аднак іх скрыпка гучала на ледавай пляцоўцы Менска першай. Вось і шукай тут першапрычыну. Спачатку мкнемся, рвемся, а як да справы даходзіць, мы аўтсайдэры ў ёй.

## Беларускі футбол радуе

Радуюць заўзятараў самай папулярнай гульні Сусвету футбалісты барысаўскага "БАТЭ", якія здолелі з аднолькавым лікам 3/1 ў гасцях перамагчы французкі футбольны клуб "Ліль", а дома з тым жа лікам паканаць фіналіста мінулагодняга розыгрышу Лігі чэмпіёнаў Мюнхенскую " Баварыю".







Свабоднае інфармацыйнае выданне
Заснавальнік: Абласная Рада сяброў БХД Гародні.
Надрукавана на ксераксе с. М. Кухты
Наклад 299 паасобнікаў
Адказны за выпуск: Георг Нёман